# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 7 (1553) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 16 ЛЮТАГА 1986 г. ЦАНА 10 зл.


## ПАТРОЙНАЯ ПРАЦА НА 1986 ГОД

Не застаўшы дырэктара пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы, мы накіраваліся да намесніка — Аляксандры Семянюк, у кабінеце якой правялі багатую гадзіну. У гэтай школе найбольш дзетак з усіх трох гайнаўскіх падставовак вывучае беларускую мову (хоць на агульную колькасць 1123 дзяцей — толькі 106 — гэта вельмі ж нямнога). Хочацца, аднак, падаць прыклад па класах. Бо хто б як не гаварыў на гэтую тэму, а ці дзеці будуць вучыцца беларускай мове ці не, найбольш залежыць ад настаўніка. Усіх, але „зацікаўленых“ асабліва! Гэтымі зацікаўленымі могуць быць класныя выхавацелі і выкладчыкі беларускай мовы. Спосабы прыцягнуць дзяцей, заахвоціць вывучаць родную мову, бываюць розныя. І калі хто захоча — знойдзе спосаб. Адзін з іх знайшла настаўніца Оля Андрэюк. Стварыла яна цэлую лялькавую майстэрню і на гэтай базе лялькавы тэатр для тых, хто вывучае беларускую мову. Кожны год у пачатку верасня лялькавы тэатр Вольгі Андрэюк прыходзіць у другія класы да дзяцей, якія пачынаюць вывучаць беларускую мову, з беларускай п'есай-казкай: будзе гэта казка пра непаслухмяную курачку, пра бусла, ці пра дзеда і бабу. Для сваіх пастановак настаўніца самастойна і ўдала распрацоўвае вядомыя папулярныя беларускія казкі: распісвае іх

(Працяг на стар. 3)



У школьным музеі народнай памяці. Экспанаты паказвала нам Эва Семянюк.

## АДГАЛОСКІ

### ДРЭННЫ БЕЛАРУС, АЛЕ ЦІ ДРЭННЫ ЧАЛАВЕК?

Шмат горкіх слоў накіравана на старонках „Нівы“ ў адрас тых беларусаў, якія адракаюцца ад сваёй роднай мовы. Некаторыя з выказваючыхся пасоўваюцца нават да дэмагогіі. Для іх беларус, адракаючыся ад беларускай мовы, адназначны з асабліва дрэнным чалавекам. Ці гэтак сапраўды ёсць? Пераліваю я ў думцы ўсіх вядомых мне беларусаў, якія „забылі“ сваю мову, і параўноўваю іх з тымі, якія трымаюцца той жа мовы, а таксама з іх суседзямі-палякамі. І што ж выходзіць? Проста я не бачу ніякай розніцы паміж імі. Беларусы, якія перасталі карыстацца сваёй мовай, або карыстаюцца ёю вельмі рэдка, такія ж самыя людзі, як і ўсе. Праўда, маюць нейкія недахопы, але яны таксама выступаюць і ў другой групе. Як адны, так і другія маюць аднолькавыя вартасці. Праўда, здараюцца адзіночныя асобы сярод першай групы беларусаў, жыццёвы дэвіз і паводзіны якіх бываюць адпіхаючыя, але такія ж самыя асобы і ў такой самай колькасці выступаюць у другой групе. Дык, думаю, занадта прыпісваем мы нашым сёстрам і братам — беларусам, забыўшым родную мову. Не, я не хвалю іх рашэння. Яны напэўна дрэнныя беларусы (з пункту гледжання нацыянальнасці), але неабавязкова мусяць быць дрэннымі людзьмі ці грамадзянамі.

Усе мы ведаем, што беларуская нацыя дала іншым нацыям многа сваіх сыноў. Дала перш за ўсё не па сваёй волі, але ці можна сказаць, што яна іх цалкам патраціла? Мо патраціла як беларусаў, але як людзі яны асталіся і нараз дабром адплацілі свайму народу. Многія людзі, якія выводзяцца з нашай нацыі, залатымі літарамі ўпісаліся ў сусветную літаратуру, навуку, палітыку, і іншыя галіны людской дзейнасці. Нам добра вядомы іх прозвішчы. Мы ганарымся імі і іх дасягненнямі, хаця яны ў свой час родную мову змянілі на іншую (або зрабілі гэта іх продкі), а часта пакінулі і беларускую зямлю.

Адыходжанне ад сваёй мовы, ад свайго роднага, гэта з'ява, безумоўна, сумная і балючая. Выступае яна не толькі сярод беларусаў, хаця нам здаецца, што якраз мы ў ёй першынствуем. Яе дыяпазон залежыць перш за ўсё ад варункаў тэрытарыяльных, гістарычных, а часам і палітычных. Частка беларускага народа, якая апынулася ў ме-

(Працяг на стар. 4)

## З рэпарцёрскіх запісак

## У СВЯТОЧНЫМ НАСТРОІ

На вуліцы ў Міклашах сабралася некалькі сялян. Святкавалі Каляды. „Няўжо прэзас Аляксандр Пугацэвіч загадзя загітаваў сваіх пастаўшчыкаў, каб належна прывіталі гасцей?“ — падумаў я, выходзячы з аўтамабіля.

— Са святам вас! — паўтараў я, падаючы руку сялянам па чарзе. У вачах сялян пачаткова з'явілася здзіўленне, але хутка яно ўступіла месца сяброўскай усмешцы. Яны шчыра паціскалі мне руку і я чуў у адказ:

— І з вамі здаровымі!

Прэзас А. Пугацэвіч таксама пачаў вітацца з сялянамі. Толькі іншыя госці здалёк галовамі кіўнулі мужыкам на прывітанне і накіраваліся ў суседнюю хату, куды павёў іх шафёр. Прэзас А. Пугацэвіч таксама паследаваў за імі.

А мне хацелася крыху пагутарыць з тымі людзьмі, што з гордасцю нясуць у будучыню спрадвечную спадчыну нашых супольных продкаў.

— Неяк ціха святкуецца, сябры! — гавару пад вясёлую ноту, каб не пакрыўдзіліся.

— Няма ад чаго спяваць, — таксама жартаўліва адказвае адзін з іх. — Гарэлкай-манапалькай не запасліся, а з самагонкай зараз — ого-го! — трэба асцерагацца!

— Не дай Бог, каб злавілі! — працягвае думку яго сусед. — Хопіць, каб на дарозе ў кішэні знайшлі недапітую паўлітроўку, два гады сама меней аддзяжурыш...

Гляджу ў твары гэтых сялян і разумею, што яны не надта адчуваюць сябе пакрыўджанымі гэтымі суровымі правіламі ў адносінах да самагоншчыкаў. Больш іх турбуюць справы роднай вёскі, а асабліва яе будучыня. Аказваецца, што і Міклашы не абмінула хвароба „старэчага занепаду“.

— Больш у нас цяпер рэнтыстаў, чым дзейсных гаспадароў, — заяўляе адзін з сялян.

— Хто будзе зямлю нашу апрацоўваць і хлеб ды мяса ў горад пастаўляць? — дакінуў іншы.

— Калгас трэба арганізаваць, — кажу я. — Супольна лягчэй. Аднаму рабочаму пад сілу і сто гектараў апрацаваць.

— А вы, можа, падумалі, што нас калгасам напалохаеце! — іранічна ўсміхнуўся адзін з маладых сялян у гэтай кампаніі, хаця яны ўсе пяцёра былі ўжо

(Працяг на стар 6)

аленяў“. Фільм гэты быў зняты тут амаль цалкам. Рэжысіраваў Гжэгаж Скурскі. У канцы лістапада некалькі тэмаў для праграмы „Звярынец“ (у польскім тэлебачанні) рэалізаваў Ян Валенцік. Яны дэманстраваліся ў снежні 1985 г. і ў студзені 1986 г.

Восенню 1985 г. працягваўся ў Белавежы юбілейны — ужо XX мастацкі пленер.

Варта таксама аднатаваць яшчэ два цікавыя белавежскія мерапрыемствы. Увосень 1985 г. закончыўся конкурс на найпрыгажэйшы прысядзібны агародчык у цэлай Белавежскай гміне і адбылося ўрачыстае святкаванне 50- і 25-годдзя шлюбнага жыцця многімі парамі. Абодва мерапрыемствы наладзіў Гмінны асяродак культуры. Ён будзе іх паўтараць у наступных гадах.

Як заўжды, адбылося ў Белавежы некалькі канферэнцый, пасяджэнняў і курсаў. Праходзілі яны, як правіла, у гасцініцы „Іва“ або ў Лясным тэхнікуме.

У гміне мадэрнізаваны некаторыя вуліцы і дарогі (асабліва трэба адзначыць, што пачалі асфальтаваць дарогу з Будаў праз Тэраміскі, Пагарэльцы ў Белавежу — работы ў гэтым годзе будуць закончаны і тады пусцяць праз гэтыя мясцовасці аўтобусную лінію). У верасні наймалодшыя жыхары Белавежы прыйшлі ў адрамантаваны будынак свайго дзетсада. Надалей працягваўся рамонт кінатэатра „Зубр“. Мадэрнізавалася каўбасная. Разбудоўвалася тэлефонная лінія, а ў скансене паявіліся два новыя аб’екты. У дырэкцыйным парку будаваліся новыя дамы для настаўнікаў, побач жа палацовага парку дамы для працаўнікоў нацыянальнага парку. У цэлым мястэчку паявілася некалькі лавак з прыстрэшкамі (асабліва на прыпынках ПКС) і дошак на аб’явы. Змяніў уласніка і месцазнаходжанне магазін кветак. Вядзе яго цяпер М. Лінке, а знаходзіцца ён непадалёк кнігарні. Вясной з прычыны малога абароту зачынены адзін з двух пунктаў продажу сувеніраў ПТТК.

**Пётр Байко**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 2)

### НА МЯЖЫ

шчы ведала як найбольш аб беларусах як адвечных жыхарах усходняй Беласточчыны, а не як аб нейкім „прадукце рускіх цароў“. Праўда, я рэгулярна не слухаю польскіх перадач з Беластока, але здаецца мне, што беларускае праблематыкі ў іх столькі, што кот наплакаў. Не лепш справа выглядае ў цэнтральных праграмах польскага радыё і зусім безнадзейна ў тэлебачанні. Наколькі мне вядома, ніколі яшчэ дагэтуль у тэлебачанне не былі дапушчаны дзеячы нацыянальных меншасцей.

А чаму? Яны ж толькі маглі б пацвердзіць і спапулярызаваць праўду аб тым, што нацыянальныя меншасці ў Польшчы карыстаюцца з тых самых правоў, з якіх карыстаецца ўсё грамадства, і што створаны ў нас умовы для захавання і развіцця нацыянальнай таясамасці ўсіх нацыянальных груп. Думаю, што публікацыі ў рэгіянальнай і цэнтральнай прэсе, а таксама выступленні па радыё і тэлебачанні дазволілі б выясніць многае грамадзянам усёй Польшчы і запярэчыць тым нядобразычліўцам, якія няраз атакуюць нашу краіну і ўнутры і з-за яе межаў.

**Алесь Барскі**

# АДНА З СЕМ’ЯЎ У ПУХЛАХ

Адзін у полі не воін, гаворыць народная пагаворка. А Людвік Багінскі з Пухлоў быў адзін і ў полі, і ў хаце, і ўсюды. Маці памерла, калі было яму 14 гадоў, а бацька — 6 год таму назад. Жыццё яго стала вельмі цяжкім і адзінокім. Нават аказацца не было да каго.

Але ў лютым 1982 года ён ажаніўся з дзяўчынай з Арэхавіч, якую завуць Басяй. І жыццё яго змянілася. Цяпер лепш дагледжана жывёла, хутчэй спраўляюцца яны на полі, ды ў хаце стаў большы парадак, а найважнейшае, жонка пачала смачна гатаваць.

У Багінскіх 4 дойныя каровы. Штодзень здаюць па 30-40 літраў малака. Гадуюць яны яшчэ 6 цялят, якія таксама будуць дастаўлены на скупку. Апрача таго, прададуць дзяржаве 6 кормнікаў, ужо сёння кожны з іх важыць больш ста кілаграмаў.

Багінскія займаюцца таксама авечкагадоўляй. Але цяпер у іх толькі тры авечкі, а было 18 штук. Год таму назад, увосень, напаў на іх стада воўк і разарваў 6 авечак. Ягнят шукалі два дні. Былі яны вельмі пакалечаныя.

Багінскія прадукуюць шмат збожжа. Толькі дзяржаве прадалі яго паўтары тоны. Значную колькасць збожжа прызначаюць на корм. Уклад сям’і Багінскіх у справу пракармлення народу, такім чынам, значны.

Мог бы быць ён яшчэ большы, сцвердзіў Людвік Багінскі, каб удалося купіць трактар. Падрыхтавалі ўжо нават грошы.

Людвік Багінскі ад 18 года свайго жыцця з’яўляецца членам добраахвотнай пажарнай каманды. Іх пажарная каманда мае баявы пажарны самаход, шафёрам якога ўжо 4 гады з’яўляецца ён. Усё гэта таксама патрабуе нямала часу.

Багінскія дачакаліся ўжо патомства. Дачцы Ёлі цяпер 2 гадзікі і чакаюць яны другога дзіцяці.

Так выглядае з большага жыццё і праца адной з радавых сялянскіх сем’яў у Пухлах, што ў Нараўскай гміне.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота аўтара



ці парасон палажу — тут хату варочаю, не ведаю, дзе што палажыла. Няхай яго нагла, на што чалавек жыве! Паводле таго, што быў цікавы, разумны, хітры, і працаваў, і дзяцей гадаваў, і на кулакеві выспаўсе — і было добра. А цяпер есці, піці, беспрацоўе, і нічога не варты... А як цяжка жылося... Цяжкія часы былі, розныя людзі сустракаліся...

Сядзімо ў склепі, бамбяць. Наталя так выганяла Верку: бо ты грэшна, разумееш, бо ты цягалася, бо ты сякая-такая, выганяла. А Ліза давай да яе: Наталё, апусціце рукі. А можа вы больш грэшны? Што вы ў царкву ходзіце, спяваеце. А можа вы словам горшы? А тая ўсе: „выйдзі, бо як упадзе бомба, то за цябе нас паб’е“. А білі, білі кругом, а мы ў тым склепе сядзелі, і павыходзілі, усе жывыя асталіся. А як прыйшлося Зінінаму мужыку ў лесе ўміраці, і пад царквою... хаваці... Раманаўскай Зіны Ёзікаві, ну? Эх.

А як вёску вывозілі. Дзеці малыя на фуру, што маглі, усё на фуру. Толькі за вёску выехалі, сталі Баравыя гарэці. Немцы паляць. А перад ад’ездам наш таму Бабро́ўскаму — літар водкі. Кажа той: не спаляць ні тваёй хаты, ні твае клуні, нічога. Ах як з вашае клуні ляцелі гранаты! Чаго туды Іван Кастанчук не нацягаў! Загарэлася, і як пачало страляць! Пых-пых-пых, той туды, той сюды, феерверк, ано воў-воў-воў, а госпадзі, а мы ў каня! Ах, тыбанько, такая вайна адкрылася!

Едзем, дзве карові вядзем. Заехалі ў гэты канец Семяноўкі, да Юстына. Вінакурча бяжыць: ох Мацкевічы, кідайце карову, адну толькі можна браці! Чацвёра дзетак на возе, а мы хутчэй да Маскальчука карову такую вялікую, чорну, не дояну. Касцюк карову хутчэй на падворак: кармеце, дойце, як вярнуся, то забяру, а як не... Ах злітуйцеся, хоць выдайце, бо не дояна... То ранютко было. А каля самае Гапкі, каля Башмачыхі, стаяла ўжо маса немцаў, і каровы забіралі.

Але для чаго немцы так каталі той народ? Валодзя маленькі пайшоў за патрэбай, спозніўся быў да вывазкі. Колькі той немец даў яму гумаў, што свет не бачыў. Каб той звер і не вярнуўся, каб ён прапаў і яго карэнні знішчэлі...

А тады... Даехалі мы да Лукі, узялі двое свінней. І там таго парсюка не даюць забіць. Мы пашлі ў хваіну, забілі яго, хутчэй абсмалілі, накрылі кастрыцаю, прывязлі. А немцаў поўна Лука — як яго разабраць? Накрылі, а тое мяса спарылася, смярдзіць. Увечары ў хаце крыху паскраблі, памылі, і завязлі ў клуню, у сена схавалі. Трэба было чымсе карміці дзяцей.

А як выехалі мы на Мырху... Заехалі мы да рэчкі, разбілі будкі. Як даў дождж, як далі самалёты, то скрыцця не было! А вужоў пад галавою, круцяцца ў нагах у дзяцей! Давай я дзетак вырываць з тых падушок, а тых вужоў — страх! Тут ужо і салдаты каня нашага ўзялі, няма чым вярнуцца. Далі нам такога, што ён не можа ўжо хадзіць, проста падае.

Цяжка было. Але пасля... Але пасля сапраўды было лепей. Калі паставілі хатку малюсень-

(Працяг на стар. 6)




### ЗНЯВОЛЕНЫЯ ЎЛАСНАЙ ВОЛЯЙ

На прадпрыемствах вельмі часта перад сходам, на якім маюць быць пастаўлены важныя праблемы, рабочыя між сабою вядуць доўгія гутаркі. Калі ж пачынаецца сход і трэба выказацца, усе тыя, хто раней многа гаварыў, цяпер маўчаць. Той, хто ведае, як выглядае жыццё прамысловага прадпрыемства, скажа, што нічога новага я тут не пішу.

І праўда. Хачу, аднак, звярнуць увагу на прычыны такой з’явы. Яны розныя. Адны думаюць пра сябе, што не патрапяць добра сказаць і толькі асмешацца. Іншыя займаюць нейкія высокія пасады і не хочуць гаварыць, каб не падпасці кіраўніцтву ці дырэкцыі. Ёсць і трэцяя група, гэта людзі, якія не могуць гаварыць, бо яны знявалены ўласнай воляй. Той, хто п’е, не можа гаварыць аб п’янстве, хто выносіць з прадпрыемства, не можа гаварыць аб крадзяжы, хто не прыходзіць да працы, парушае дысцыпліну працы, не можа гаварыць аб дысцыпліне. Усе такія людзі стаяць як бы з боку жыцця прадпрыемства. Іх нікуды не выбіраюць, не адзначаюць. Адчуваюць яны сябе пакрыўджанымі і рэдка хто з іх самакрытычна адносіцца да самога сябе. Але неафіцыйна яны ахвотна крытыкуюць іншых.

Шмат прадпрыемстваў стараецца палегчыць працу рабочых. Найцяжэй, аднак, бывае з падыходам да гэтай справы саміх рабочых. Прыходзяць падхмеленыя, а вельмі часта выходзяць п’яныя. Маглі б зарабіць яшчэ столькі, а сілы не хапае. Алкаголь глуміць іх. Паводле законаў можна іх з працы выкінуць. Але хто стане на іх месца? Дзе шукаць людзей? І яны аб гэтым, на жаль, добра ведаюць. Аднаго толькі яны не могуць або не хочуць зразумець: што самую вялікую крыўду робяць сабе. Яны часта яшчэ маладыя, а ўжо быццам старыя. Маглі б расці, лічыцца на прадпрыемстве, мець павважанне ў асяроддзі. Ды што ж, калі не могуць перастаць піць...

Ці ёсць нейкі выхад, ратунак? Прымусовае лячэнне? Пры недахопе людзей прадпрыемства не рашыцца, каб лячыць гэтых людзей. Што застаецца? Самазразуменне і дапамога з боку людзей і лекараў. Перш за ўсё — барацьба з самім сабою. Чалавек найлепш сябе ведае. Ні малітвай, ні карай, але сваім розумам і воляй зможаш стацца вольным — пакуль яшчэ час.

**Рышард Бутайла**

### Куток практычных ведаў

■ Сагнутыя металічныя вязальныя спіцы выпрастаюцца, калі апусціць іх у кіпецень і патрымаць, пакуль не астыне вада. Пасля гэтага спіцам лёгка надаць ранейшую форму.

■ Прамасленай наждачнай паперай добра можна вычысціць заржавелыя ключы.

■ На нікеляваных прадметах таксама можа паявіцца ржаўчына. Змажце тлушчам і праз два дні пратрыце шматком, змочаным у нашатырным спірце.

(Працяг са стар. 5)

# БАБА МАНЬКА З БАРАВЫХ

ку, і ўвайшлі, то здавалася, што Вялікдзень, свята якое. А што далей? Жыць. Добра, што жылі. Як на жыццё — усё перажывеш. Дзяцей пагадавалі, па свеце пайшлі. Адзін у Лідсбарку, другі — у Цеханове, двое — тут, дочку аддалі. І цяпер я такога дабра дачакалася, каб так яно да смерці.

Вёсачка змянялася, колькі помню. Яшчэ тата расказвалі. Бусел перанёс быў вясною гняздо з нашае клуні на Лізіну. Пачалі збожжа збіраці, як упе-рыў пярун у стадолу, і клуня згарэла, і хлеў спаліўся, і многа дабытку. Бусел ведаў. Тата рабілі печ у Семяноўцы, прыбеглі. І не ратуюць што для дзяцей з хаты, але дзверцы тузаюць, дзверцы жалезныя са сцяноўкі, бачыш ты, што з чалавекам з таго ўсяго... А мама як адчынілі скрыню, так схапілі звалька кужалю, а тата за другі канец — і кясуць аднаго. Чалавек у няшчасці думаць не думае. Тады то мы пастрадалі. Карова спалілася, многа свіней згарэла, а ў Максіма вялізны, да 2 метраў, парсюк. Ліў дождж, і не мог пагасіць агня. То яшчэ перад вайною. А то цяпер зноў за немца так згарэлі. Так. Доля.

Івана Максімавага забілі. Якім, як пайшоў у армію, так ужо і не вярнуўся. Колю Лізінага забралі немцы, на захадзе жыў, і памёр. Лізін Саша згінуў... Як доля чалавека дагоніць: сябар Сашын на веласіпедзе праехаў, а яго трактар піхануў на гару камення, і мазгі і паліліся... А з Максімавых у вёсцы толькі Коля Андраюк астаўся, а Лізіных тут увогуле няма. І дзве старажытныя ліпы зрэзалі. Памяталі яны яшчэ прошлае стагоддзе.

**Міра Лукша**

## РАСЦЕ НОВЫ ХОР

Пачалося ў Кленіках ад таго, што прыехалі ў вёску з Гайнаўкі Мікалай Бушко і Аляксандр Лукашук. Разам з дырэктарам школы пайшлі да солтыса. А добры солтыс добра ведае пра ўсіх і ўсё ў вёсцы. Таксама і пра тое, хто знае песні, хто добры мае голас, хто можа спяваць. Так шчасліва ў Кленіках склалася, што сам солтыс Васіль Купрыяновіч іграе на акардэоне і спявае. Спявае і яго жонка. Вакол іх сабралася памалу, а фактычна не памалу, а хутка, усяго ад восені 1985 г., 30 чалавек. Узнік мешаны вакальны калектыў у Кленіках фальклорнага характару. Раз у месяц прыязджае да іх Аляксандр Лукашук на рэпетыцыі. Але самі збіраюцца ў мясцовым клубе-рамізе часцей. Рыхтуюцца актыўна да першых выступленняў. Напэўна кленіцкіх спевакоў пачуем ужо ў конкурсе „Беларуская песня-86“. (вл)

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

З песняй дружыць — ніколі не тужыць.

Пей, пакуль пяецца: замуж выйдзеш — усё мінецца.

Усяму свой час.





Васіль Куна з жонкай Марыяй паказваюць свае вырабы з саломы.

# У СВЯТОЧНЫМ НАСТРОІ

(Працяг са стар. 1)

ва ўзросце амаль пенсійным. — Даўно мы перасталі баяцца калгасаў!

— Падумайце, колькі ўсяго цяпер трэба гаспадару, каб неяк паставіць на ногі сваю гаспадарку! За адны машыны мільёны два заплаціць даводзіцца. А будынкі, а жывёла...

— Я хаця б і заўтра запісаўся ў калгас, толькі і туды не так лёгка і не так хутка цяпер прымаюць, — кажа іншы. — Гэта не тое, што было пры даўнейшай палітыцы, калі і сілай гналі ў калгасы...

— Я ж сам — сын калгасніка, дык ведаю, — перапыніў я гаваркога селяніна.

— Нічога ты не ведаеш! — заявіў найстарэйшы сярод іх. — Прыехаў ты на святочную каўбаску, паясі ўдосталь, вып'еш, ды і паедзеш к чортавай мацеры! — ён адвярнуўся і пайшоў вясковай вуліцай.

— То і праўда! — падтрымаў яго другі селянін. — То ж гляньце, колькі „таксовак“ у вёску на свята наз'язджалася! Рэдка дзе няма панадворка, на якім не стаяла б „сірэна“ альбо „фіят“, а зрэдку дык і „паланез“ трапіцца, а здарыцца і „мерседэс“, і „рэно“, і „гонда“...

— Як вы добра ведаеце ўсе маркі аўтамабіляў! — зажартаваў я. Селянін, аднак, не звярнуў увагі на мае словы і прадаўжаў сваю думку:

— Адкуль усё гэта ўзялося? То ж, бадай, не з працы рук на худзенькіх гарадскіх пасадах! Ад нас, ад мужыкоў усё гэта вядзецца...

*

Мяне паклікалі ў хату **Васіля Куны**, дзе за багата застаўленым сталом чакалі ўжо ўсе іншыя „цэпэльеўскія“ госці. Васіль Куна з'яўляецца адным з першых на Беласточчыне пастаўшчыкам саламяных вырабаў, плеценых ракітай. Гэта самыя розныя па размеру і форме кошычкі, бочачкі, вярхі сталоў, скарбонкі ды іншыя гэтага роду і тыпу саламяныя рэчы.

— Бяда, паночку, бяда ўсяму нас навучыла! — кажа гаспадар. — У першую сусветную вайну мае бацькі, уцякаючы ад немцаў, апынуліся ў глыбіні Расіі. А там, у час грамадзянскай вайны, ведаеце, які быў голад?! Ніхто не паверыць цяпер, як людзі паміралі ад голаду і ад хвароб, пераважна ад тыфу. Усе дзеці ў маіх бацькоў тады памерлі. Чатыры браты і дзве мае сястры. Бацькі ў Міклашы вярнуліся адзінокія. А тут — што? Таксама ні кала, як кажуць, ні двара. Будынкі развалены, поле зарасло карчамі... Я ўжо нарадзіўся ў Міклашах, у 1923 годзе. Але на шостым годзе жыцця астаўся сіратою. Бацька памёр на сухоты касцей. Я вельмі слаба яго памятаю. Толькі ведаю, што страшэнна ён мучыўся і доўга хварэў. Так я стаў адзіным наследнікам шасцігектаровай гаспадаркі. Замала, каб жыць парадачна, але замнога на слабыя рукі дзіцяці. Заапекаваўся намі дзядзька, родны брат бацькі. І тады навучыўся я плесці гэтыя карабкі. То ж кажу, што бяда мяне навучыла... Але, але, я разгаварыўся, а тут усё ў нас на стале стыне. Ну, за тое, што прыехалі!

Я з цікавасцю акінуў пазіркам гэтую даволі тыповую сялянскую хату. Усюды былі відаць наяўныя прызнакі сапраўднага народнага мастацтва. Нават вялікі малюнак на палатне з плаваючымі лебядзямі. Тапчан пакрыты самаробным узорыстым дыванам, падушка ў навалачцы з уласнымі карункамі, да гэтага яшчэ аздобныя сурвэткі, саламяная накрыўка на верх стала, што ў кутку, і пад кветкамі...

— Да мяне нават госці са Швецыі прыязджалі, каб паглядзець, як мы ўсё гэта робім, — інфармуе селянін, а прэзас А. Пугацэвіч паясняе, што па ўзору польскай „Цэпэліі“ шведскі ўрад рашыў стварыць у сябе падобную арганізацыю ці суполку для рэстаўрацыі і прапаганды народнага прыкладнога мастацтва. І таму шведскія спецыялісты прыязджалі знаёміцца з сістэмай дзейнасці „Цэпэліі“.

— А дзе ж ваша жонка? — звярнуўся я да Васіля Куны.

— Яна там на кухні, адпраўляе дзяцей, яны ў нас учора гасцявалі. То ж ведаеце, як яно, кожнаму трэба на дарогу штосьці...

Дзяцей у іх трое: два сыны, Вячаслаў, што тэхнікам-будаўніком, і Мікалай — ляснік, а




# ПАРТЫЗАН — НЕ ЗАЯЦ!

Дзмітры Макараў у глыбіні душы паціху цешыўся, што яго рашэнне, каб Грышка Каравай надалей аставаўся камандзірам гэтага партызанскага атрада, выклікала яўнае незадавальненне. Чамусьці і яму выразна не спадабаўся гэты Каравай. Усё не мог яшчэ пазбыцца назойлівай думкі, якая мучыла яго ад першага моманту сустрэчы з гэтым чалавекам, што ён і па голасу, і па вонкаваму выгляду напамінаў яму арыштаванага за бойку нейкага Каравая яшчэ ў той час, калі Дзмітры Матвеевіч быў начальнікам Раённага аддзела Народнага камісарыята ўнутраных спраў у Высокалітоўску. Нават падумаў, што, магчыма, гітлераўцы падставілі яго, Каравая, каб мець свайго чалавека сярод партызан, каб непрыстойнымі ўчынкамі кампраматаваць высакародную ідэю партызанскай барацьбы, гэтага народнага змагання з ненавісным, але лютым ворагам.

Прыгадаў Дзмітры Макараў і тэарэтычнае абгрунтаванне партызанскага руху, якое засвойваў ён супольна з іншымі курсантамі падмаскоўскай школы, наладжанай Беларускім штабам партызанскага руху, асабліва словы Леніна, што: „Партызанская барацьба ёсць непазбежная форма барацьбы ў такі час, калі масавы рух ужо дайшоў на справе да паўстання і калі наступаюць больш або менш буйныя прамежкі паміж „вялікімі бітвамі“ ў грамадзянскай вайне“.

Яшчэ раз Макараў уважліва паглядзеў на Грышку Каравая, які тупым пазіркам вадзіў па расшумеўшыхся сябрах-партызанах і не ведаў, што яму рабіць.

„Не, — рашыў Дзмітры Макараў, — няма чаго баяцца! Гэты сялянскі ваяка напэўна нездольны пайсці на гэтакую хітрасць, каб пачынаць нейкую тонкую і небяспечную здрадніцкую гульню адначасова з намі і з нашым ворагам. Хай астаецца ён тут партызанскім камандзірам. Толькі чаму вось так расшумеліся ягоныя таварышы?“

Ён павёў пазіркам па партызанах. Хацелася ведаць хто ў першую чаргу незадаволены тым, што Грышка Каравай надалей аставаўся ў камандзірах. І зразумеў, што пратэстуюць у першую чаргу „васточнікі“, савецкія людзі, якіх ваенны лёс закінуў у гэтыя староні. Відаць, надакучыла ім своеасаблівае мужыцкае разуменне партызанскай барацьбы, якое прадстаўляў Грышка Каравай. Неяк трэба падтрымаць яго аўтарытэт і накіраваць камандзірскія паводзіны ў ідэйнае русла партызанскага руху, — рашыў Макараў і, устаўшы ад стала, крыкнуў:

— Што за шум?! Тут жа не кірмаш і не вясковы сход! Камандзір! — звярнуўся да Кара-

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## У НОВАЙ ШКОЛЕ

Аб тым, што ад верасня школа ў Гародчыне напоўніцца дзецьмі, „Зорка“ ведала яшчэ летам. Надта ж стараліся бацькі хутчэй падрыхтаваць школу на пачатку навучальнага года. Школьны будынак ёсць тут даўно, але вучыцца ездзілі дзеці ў Кленікі, нават у апошнія гады і малодшыя класы.

„Чаго ж мае марнавацца ў нас такі будынак?“ — падумалі гародчынцы і ўзяліся за работу. Спачатку пастараліся атрымаць згоду, што (калі адновяць будынак) школа да іх вернецца, а потым узяліся за работу.

Рамантавалі, перараблялі, малявалі, чысцілі. Працавала ўся вёска на чале з солтысам Іванам Сэльвеструком. Вельмі дапамагаў сельскагаспадарчы гурток з яго кіраўніком Іванам Снарскім. Потым сельгасгурток стаў школьным апекуном.

А перад самым пачаткам навучальнага года, пад канец жніўня, калі здавалася, што не паспеюць, апошнім грамадскім чынам давялі школу да поўнага бляску. Тады працавалі ўсе: і цэлы бацькоўскі камітэт, і настаўнікі, і дзеці, і нават школьны інспектар Юрка Хмялеўскі, закасаўшы рукавы, спрытна дзейнічаў пэндзлем, а побач — солтыс Іван Сэльвеструк, настаўнік Грыша Сэльвеструк, Сяргей Юрчук і іншыя. У солтыса на сенажаці ляжала яшчэ два гектары сена, але працаваў ён да самай ночы.

Дырэктар школы Снарская і ўсе настаўнікі былі ў захапленні ад такой дапамогі ўсяго асяроддзя. Школа стала вельмі прыгожай, прасторнай і светлай.

Цяпер у Гародчыне вучацца дзеці і з Янова, дзе раней у старым будынку мясцілася ўцеснаце школа, і іншых суседніх вёсак. А ўвесь настаўніцкі калектыў, які таксама перайшоў сюды з Янова, вельмі задаволены новай школай.

І вось ад верасня школа ўжо працуе нармальна. Апрача звычайных заняткаў, у школе ўжо адбылося шэраг цікавых урачыстасцей. З вялікім хваляваннем адсвяткавалі адкрыццё школы, потым адзначалі гадавіны — дзень Міліцыі. Дзень Настаўніка, адгулялі „Андрэйкі“. у школу ўжо прыязджаў паэт Алесь Барскі. Да сустрэчы з Барскім дзеці падрыхтаваліся вельмі старанна. Сустрэлі яго ў нацыянальных касцюмах (касцюмы гэтыя былі пашыты са сродкаў, якія былі здабыты як

(Працяг на стар. 10)



*Найлепшыя ўдзельніцы школьнага дэкламатарскага конкурсу — Эля Кулеша, Тамара Назарук, Эля Сэлівонюк, Мірка Дударык і Аня Аксенюк.*



*Вучні другога класа, якія сёлета пачалі толькі вывучаць беларускую мову.*

## ЁЛКА

Многа, многа радасці ўсім нам прынясла.

Так, так, многа. Многа радасці прынясла ёлачка ў суботу 25 студзеня 1986 года дзецям школы ў Махнатым.

За акном зіма пануе, а ў зале радасць, цеплыня, смех. А зіма ў гэты дзень як бы назнарок надвор'е снегам прыбрала. Твары дзяцей вясёлыя. А ёлачка нібы гаворыць: „Гэта я іх так размалявала і радасць прынесла“. Усюды ўзняты настрой. Бацькі глядзяць, як выступаюць іх дзеці, і думаюць: „Хоць бы добра ў іх выйшла на сцэне“. Дзеці не могуць дачакацца пачатку. І хочуць выступіць як найлепш — бацькі ж іх ацэньваюць!

І вось дырэктар, у некалькіх цёплых словах, адкрывае дзіцячае свята. На сцэну выбягаюць наймалодшыя — чыстая радасць, расцвіўшыя вясновыя кветкі. А маладзенькія, звонкія галаскі звіняць у зале. На пяцёрку падрыхтавалі сваю сцэнку прадшкольнікі. Задаволены і бацькі і апякунка.

На сцэну выходзяць першакласнікі. Гэта ўжо смялейшыя артысты. І гэтак па чарзе. Клас за класам. Усе хочуць паказаць сябе як найлепш. Гэта ім удаецца. Падрыхтаваны вельмі добра. Відаць, настаўнікі напрацаваліся. За гэта бацькі не шкадуюць рук, дадаюць ім адвагі.

Не магу не падзякаваць настаўніку беларускай мовы Я.Міранюку і яго жонцы, таксама настаўніцы, за добра падрыхтаваную беларускую сцэнку „Бабуля прыехала“.

Потым выступае школьны хор, з усіх класаў. Прыгожы рэпертуар, прыгожыя песні. Спявалі ўсялякія песні — і польскія, і рускія, і, вядома, беларускія. („Люблю наш край“, „Беласточчына“ і іншыя). Са словамі песні „Бывайце здаровы“ пакідаюць сцэну. А за імі — мора апладысментаў. Брава! Брава вам, настаўнікі, за вашу працу!

Далей быў Дзед Мароз, як заўсёды. І падарункі. Вочы дзяцей поўныя радасці і ўцехі. А цікавасць распірала не аднаго: што там у падарунку?

І гэтак канчаецца першая частка вечара.

А потым танцы і танцы, да вечара, для дзяцей. Гэта іх свята. І такое толькі раз у год бывае. Шкада. Некаторыя кажуць, што добра было б, каб так часцей прыходзіў Дзед Мароз... Але так не бывае. Не сумуйце, дзеці. Вучыцеся добра, настаўнікаў слухайцеся. І да наступнай сустрэчы ўжо недалёка. Праз год.

Да сустрэчы з ёлкай.

**Рыгор Мароз**



## РАЗМОВА

Алё! Гэта Цэнтральная Нервовая Сістэма? Вас турбуе Сардэчны Клапан! Што ў вас здарылася? Чаму перасталі паступаць Гемаглабін і Бялковыя злучэнні?.. Што? Самі не ведаеце? А хто ж павінен ведаць?.. Зараз жа злучыцеся з Унутраным Светам Атамаў!.. Злучыліся? Што яны кажуць?.. Што-што? Якая бойка? Якія малекулы?.. Малекулы Спірытусу і Нікацінусу? А як яны трапілі ў Арганізм? Не спрацаваў Блок Ахоўнай Рэакцыі? А куды глядзела Кіраванне Мозгу? Як? Там поўная анархія? Як вас разумець? Блакіраваны ўсе падыходы да клетак Памяці? О-о, гэта дрэнна!.. А што яшчэ чуваць у Свеце Атамаў? Ага. Электроны і Пратоны змагаюцца, але іх сілы амаль на нулі. А што Нейтроны? Як заўсёды — „ні нашым, ні вашым"?.. Ну, і ну!

Алё! А што ў вас з голасам? Нейкі хрып. Антыцелы закранулі і вас? Разбураюць вашы клеткі? Паралізавалі ўжо частку Сістэмы? Паспрабуйце прапанаваць Антыцелам перамір'е! Патрабуюць поўнай капітуляцыі?! Гэта ж з глузду з'ехаць можна!.. Гэта ж пагібель!..

**Анатоль Майсееў**

## ГЕНЕРАТАР ІДЭЙ

Ён шмат заўсёды думак мае,
Рэцэптаў розных, прапаноў.
Ніколі рот не закрывае, —
Параду даць заўжды гатоў.
Карціць яму. Няма спакою.
То тут не гэтак, там не так.
Ён піша ўласнаю рукою
Праэкты,
Кожны — том-трактат.
Аж высах ад ідэй мужчына,
Няма спакою дзень пры дні.
Для справы ж — ўся у тым прычына —
Рабіць не хоча ані-ні.

**Уладзімір Фамін**



З чаго смяюцца суседзі




Вялікія за партамі



Банапарт, ты наймачай за шпаргалкай палез?

## АДКУЛЬ ГРОШЫ?

— Жывеш ты, Сяргей, на шырокую ногу, — ківае галавою сусед. — Машыну купіў, пабудаваўся, сыну харомы змураваў... І адкуль ты грошы бярэш?

— З тумбачкі.

— Гм... А ў тумбачку ж хто кладзе?

— Жонка.

— А жонцы хто дае?

— Я.

— А ты адкуль бярэш?

— З тумбачкі!

## САМ ВІНАВАТЫ

Заказчык да краўца:

— Я гэтага пінжака браць не буду, у ім рукавы — да локцяў.

Кравец:

— Не кажыце дурніц, гэта ў вас рукі доўгія.

## АБЯЦАНКА

— Мама, я выходжу замуж за Пятра.

— Божа мой! — пляскае рукамі маці. — Ты ж такая маладая... Толькі-толькі стала на ногі...

— Не хвалюйся, мама. Пятро абяцае ўсё жыццё насіць мяне на руках.

## ДАРМА БАЯЎСЯ

Доўга апіраўся Кастусь каля піўнога ларка, чакаў прадаўшчыцу. Урэшце яна прыйшла з двума вёдрамі вады. Кастусь і кажа ёй:

— Налі, калі ласка, куфаль піва, пакуль не занесла ў ларок вёдры.

— Не бойцеся, дзядзька, — адказала маладзіца, — гэта вада на заўтра, мы меру ведаем.

**Ніколі не заставайся сам-насам са сваімі думкамі: баяўся, што яны яго загрызуць.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Шатландзец прыйшоў да дантыста:

— Колькі каштуе вырваць зуб?

— Два фунты восемдзесят пенсаў.

— А колькі часу цягнецца вырыванне?

— Дзесяць мінут.

Шатландзец здзіўляецца:

— За дзесяць мінут амаль тры фунты!

— Калі вы зможаце пацярпець, я пастараюся цягнуць зуб на працягу гадзіны.

*

Магу парэкамендаваць вам дасканалага адваката. Яго кліенту пагражала пакаранне на электрычным крэсле, і, уяўляеце, ён дабіўся...

— Апраўдання?

— Не, значнага зніжэння напружання.

*

Пастар пытаецца ў вучняў:

— Можа хто-небудзь з вас сказаць, што трэба зрабіць перад адпушчэннем грахоў?

— Трэба награшыць, — адказвае Эрнст.

## НЯМА КАЛІ

— Добры дзень! Як жыццё, як справы?

— Выбачай — спяшаюся. У нас новы начальнік: на хвіліну спознішся — прэміі пазбаўляе. Заходзь на работу — там і пагаворым.

З „Весніка Задрыпоніі"

## ХРОНІКА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЦЯ

Вялікую цікавасць наведвальнікаў выклікаюць упрыгажэнні XVII-XVIII стагоддзяў, змешчаныя ў новай экспазіцыі Пернікаўскага краязнаўчага музея. Аб гэтым сведчыць хоць бы той факт, што экспанатаў з кожным днём становіцца ўсё менш.

## БАНТОН

Збіраючыся да каго-небудзь у госці, не раздумвайце доўга над тым, які абутак надзець. Усё роўна вам ля самых дзвярэй прапануюць старыя шлёпанцы.



— Кідаеш па кольцу ты надрэнна, але кожны раз забываеш адпусціць мяч.






Без слоў.




## НОВЫЯ АХВЯРЫ ДЖЭЙМСА БОНДА

Дзвесце парыжскіх журналістаў атрымалі нядаўна ананімныя лісты незвычайнага зместу: у канверты быў укладзены лісток з прыклееным да яго рэвальверным патронам і лаканічным подпісам: „Наступным разам вы атрымаеце яго ўжо не па пошце!"

Неўзабаве пісьманосец уручыў ім новыя пасланні, яшчэ больш трывожнага зместу: „Вы ў небяспецы. Звaніце па тэлефону 396-00-07. Ваш прыяцель". Але, пазваніўшы па ўказанаму тэлефону, адрасаты лістаў пачулі толькі зачытаны ім аўтаматам тэкст: „Вы сталі аб'ектам праследаванняў невядомых сакрэтных службаў. Ваша жыццё ў небяспецы". І толькі подпіс на лістах „Джэймс Бонд" прымусіў не на жарты перапуджаных журналістаў западозрыць розыгрыш.

Але і тут яны памыліліся. Як выявілася, яны сталі ўсяго толькі ахвярамі „арыгінальнай" рэкламы новага фільма аб прыгодах агента 007.

Многія журналісты, абураныя нахабнымі дзеяннямі камерсантаў ад рэкламы, падалі на іх у суд, спадзеючыся дабіцца грашовай кампенсацыі за перажытае хваляванне.




Нават і леў вымушаны сцерагчы мух.